# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 16 (2210) 18 красавіка 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

## 1991 — ГОД Максіма БАГДАНОВІЧА

**Сёлета, як прынята гаварыць, усё прагрэсіўнае чалавецтва адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча, адна- з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, нашага вялікага паэта, публіцыста, першага нацыянальнага крытыка і літаратуразнаўца. Уклад пісьменніка ў сусветную культуру агульнапрызнаны, і таму па рашэнню ЮНЕСКА 1991 год аб'яўлены Годам Максіма Багдановіча.**

**Так склаўся лёс, што большую частку свайго кароткага жыцця паэт правёў па-за межамі роднай Беларусі, але застаўся на векі вечныя ва ўяўленні мільёнаў большым беларусам, чым многія з тых, хто ніколі не разлучаўся з роднай зямлёй.**

**Нарадзіўся Максім Багдановіч у Мінску. Дом, дзе адбылася гэта выдатная падзея, не захаваўся, але на іншым будынку, што цяпер стаіць на тым месцы, прымацавана мемарыяльная дошка ў гонар паэта. Праз вуліцу, каля тэатра оперы і балета, узведзены помнік Максіму Багдановічу. У Траецкім прадмесці ў Мінску, таксама побач з тым месцам, дзе нарадзіўся паэт, будзе адкрыты літаратурны музей яго імя.**

**Рашэнне аб адкрыцці гэтага музея прынята даўно, але спатрэбіліся доўгія гады,**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**



La plus belle et la plus...
...
O ... de la race humaine
Sully Prudhomme.

Зорка Вэнэра ўзышла над зямлёю
Сьветлые згадкі с сабой прынясла...
Помніш, калі я спаткаўся с табою,
Зорка Вэнэра ўзышла.
З гэтай пары я пачаў угледацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханьнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў.
Але расстацца нам час наступае,
Пэўна, ўжо доля такая у нас.
Моцна кахаў я цябе, дарагая.
Але расстацца нам час.



**ЗДЫМКІ, што мы сёння друкуем у газеце,— гэта рэпрадукцыі з фатаграфій, якія знаходзяцца ў музеі Максіма Багдановіча ў Мінску. Першы здымак — зорка паэта, другі — сям'я БАГДАНОВІЧАЎ (1895 г.); маці Марыя Апанасаўна, бацька Адам Ягоравіч і сыны (злева направа) Максім, Вадзім і Лёва.**

*З НАГОДЫ ВЫХАДУ КНІГІ*

## ВАНДРОЎКІ ПА ЗГУБЛЕНЫМ ГОРАДЗЕ

Як вядома, сталіца заўжды з'яўлялася візітнай карткай дзяржавы ці краю. У крыху адглянцаваным выглядзе тут канцэнтруецца безліч эканамічных, сацыяльна-культурных рэалій, уласцівых адпаведнаму этнасу на яго тэрыторыі. Больш таго, сталіца — чуйны нервовы барометр, жывое люстэрка канкрэтнай нацыі з той, бадай, толькі важнай розніцай, ў сталіцах звычайна пануюц ды больш імклівыя тэмпы і рытм, што грамадскія стасункі тут часам вельмі напружаныя, бо сталіца найперш — цэнтр палітычнага і духоўнага жыцця. Таму ў сталічным горадзе даволі дакладна ўвасоблены значальныя рысы дзяржавы эўнага рэгіёна. Мінск — не выключэнне. У гэтым сэнсе не будзе, мабыць, значнай памылкай лічыць, што ўзровень вывучанасці сталічнай мінуўшчыны — індыкатар агульнага стану гістарычнай навукі ў рэспубліцы.

З мэтай пазнаёміцца з далёкай ці не надта далёкай даўніной Мінска можна зазірнуць у кнігарні, у буйныя бібліятэкі сталіцы. Там, безумоўна, параяць асіліць «цагліны» двухтомнай акадэмічнай гісторыі нашага галоўнага горада, прапануюць шматлікія таўсценныя даведнікі, сёе-тое яшчэ. Доўгі спіс, адным словам. На першы погляд — выдатна. Але майце цярпенне. Сярод гэтых вонкава-капітальных выданняў, якія зараз, калі, нарэшце, на многае адкрываюцца вочы, часам проста чытаць немагчыма (канцылярска-казённая мова, агульная шэрасць і нецікавасць, грубыя канцэптуальныя і фактаалагічныя памылкі, аглабельная абэцэдаршчына і г. д.), вы знойдзеце толькі адзінкі карысных і добрых кніг, з дапамогай якіх наталіцца ваша цікаўнасць. Гэта перш за ўсё «Рэха даўняга часу» З. Пазняка, «Мінск на старых паштоўках» (аўтар-складальнік В. Целеш), «Плошча Свабоды ў Мінску» У. Дзянісава і «Мінск у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў» гісторыка З. Шыбекі, які ў лістападзе 1990 года (ужо ў творчай садружнасці з С. Шыбека) парадаваў новай, без усякага перабольшвання, цудоўнай кніжкай, прысвечанай даўніне беларускай сталіцы.

Як бачым, нашаму Мінску, які ўпэўнена вядзе адлік дзесятага аж стагоддзя ўласнай дакументальнай гісторыі, не надта пашанцавала на сённяшніх сваіх летапісцаў і краязнаўцаў. Чаму ж так атрымалася? Таму, мабыць, па-першае, што абсалютную большасць цяперашніх мінчукоў складаюць людзі наезджыя (так сталася гістарычна) ці іх дзеці. Мінск «родным кутом» для першых наўрад ці з'яўляецца (пра другіх гаворка пойдзе ніжэй). Нават прадстаўнікі творчай гуманітарнай эліты, якія даўно тут жывуць і працуюць, звычайна бачаць свой дом не па месцы ўласнай сталай сталічнай прапіскі, а найперш там, дзе нарадзіліся, дзе ўзраслі. Зразумець такое стаўленне, беручы пад увагу сучасную індустрыяльна-канвеерную забудову, якая без жалю нішчыць утульныя і маляўнічыя старыя сталічныя закуткі, можна, бо яно натуральнае. Да таго ж, па-другое, негатыўна-нігілістычныя адносіны да мінскай даўніны, маючы агульнавядомыя карані, далі буйныя парасткі не на голым месцы. Працяглы час не было недахопу ў сейбітах заганных тэорый (адсутнасць гісторыка-культурных помнікаў у сталіцы; сапраўдная гісторыя Мінска бярэ пачатак толькі з Кастрычніка і г. д.). Навуковае ж гістарычнае краязнаўства ў Мінску, як і скрозь па рэспубліцы, дагэтуль, на жаль, фактычна знаходзіцца на нулявой адзнацы, бо апантаныя беларускія краязнаўцы 20-х — пачатку 30-х гадоў былі ўсе фізічна выбіты. Гэта надзвычай мазольная, вельмі рупная, але зусім непрэстыжная ў нашых варунках праца і зараз нічога, апроч непрыемнасцей, не абяцае нікому.

Таму кожнае грунтоўнае, напісанае даходліва і займальна даследаванне мінскай гісторыі, папаўнення якіх у блізкім часе чакаць ніяк не даводзіцца,—падзея ў грамадска-культурным жыцці сталіцы. Першнаперш адзначым, што З. і С. Шыбекі знайшлі трапны, арыгінальны падзагаловак да сваёй кніжкі — «Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада». Гэтым яны адразу падкрэслілі, што пад вокладкай нас чакае сустрэча з калейдаскопам сталічнай даўніны, якой мінчукі былі доўга пазбаўлены. Яшчэ толькі ўчора (успомніце!) усе бясконцыя разбурэнні ў нашай сталіцы звыкла спісвалі на стратныя

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## «ГОРАД МАЙСТРОЎ» НА МЕСЦЫ СТАРОЙ ФАБРЫКІ

# ПЕРАМАГЧЫ РАЗБУРАЛЬНУЮ ПСІХАЛОГІЮ

У Міністэрстве культуры Беларусі можна азнаёміцца з дакументам, які мае назву: «План рэалізацыі прапаноў фірм «Аспак» (Тайланд) і «Асахі Юкен» (Японія)». Між іншым, за подпісамі Старшыні Савета Міністраў В. Кебіча. Ёсць там такія радкі: «...ажыццявіць паэтапны вынас бісквітнай фабрыкі з вуліцы Камуністычнай да 1 чэрвеня 1993 года, афсетнай і картанажнай вытворчасці, складскіх памяшканняў да 1 студзеня 1994 года.

Вызваленыя памяшканні не зносіць, а перадаць на баланс Міністэрству культуры БССР».

Прадбачым пытанне спрактыкаванага прагматыка: маўляў, чаго гэта салідныя фірмы зацікавіліся бісквітнай фабрыкай? Но пірожныя тайландскія альбо японскія хутка будзем смакаваць?

Што да пірожных і тартоў, то іх павінна стаць больш на прылаўках нашых крам з уводам новай кандытарскай фабрыкі ў Дражні. А японскіх і тайландскіх бізнесменаў зацікавілі збудаванні старой фабрыкі, якія, па сутнасці, з'яўляюцца помнікамі прамысловай архітэктуры XIX — пачатку XX стагоддзяў. У іх па прапанове Міністэрства культуры Беларусі мяркуецца размясціць «Горад майстроў»—унікальны культурны асяродак з майстэрнямі народных умельцаў, народным фальклорным тэатрам, гандлёвымі кропкамі...

Прыемна, што ў даным выпадку перамагла не заганная «бульдозерная» псіхалогія, калі ўсё старое ідзе на злом, а імкненне зрабіць наш Мінск больш утульным для жыхароў і гэтай сталіцы Беларусі.

З пытаннямі пра тое, як нарадзілася ідэя «Горада майстроў», пра сённяшні стан справы звяртаемся да намесніка начальніка ўпраўлення будаўніцтва і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Беларусі Л. Валяева.

Вось што паведаміў Леанід Мікалаевіч.

— У сувязі з тым, што праспект імя П. Машэрава выкарыстоўваецца як урадавая магістраль, вырашана было заняцца добраўпарадкаваннем прылягаючых тэрыторый. Для гэтага ў 1982 годзе была прынята пастанова пра вынас бісквітнай фабрыкі, што побач з праспектам, за ракой Свіслач, у прамысловы раён Дражня. Разумееце, і зараз старая фабрыка псуе выгляд: якраз перад гасцінічным цэнтрам горада — побач гатэлі «Беларусь», «Юбілейная», «Планета».

Але калі прыгледзецца больш уважліва да гэтых старых забудоў, то можна заўважыць нешта незвычайнае. Перад намі сапраўдны помнік прамысловай архітэктуры, які пры жаданні можна пераўтварыць у эстэтычны «Горад майстроў» з майстэрнямі і выставачнымі заламі, павільёнамі і тэатральнай пляцоўкай. Заўважце, усё гэтае багацце зараз знаходзіцца ва ўбранстве шматгадовых дрэў і, дарэчы, з поўнай інфраструктурай: ёсць электрычнасць, цяпло, пад'язныя пуці...

«Горад майстроў» разам з Траецкім і Ракаўскім прадмесцямі і Верхнім горадам маглі б у будучыні скласці цэласны экскурсійна-турыстычны комплекс нашага горада.

Вось такая была ідэя, і з ёю ў асноўным пагадзіліся ў горадабудаўнічым камітэце Мінска. Падчас абмеркавання праекта Міністэрствам культуры акрэслены і функцыі прапануемага «Горада майстроў». Неабходна, па-першае, пад адным дахам размясціць прадстаўнікоў усіх відаў народнага мастацтва: ткачоў, кавалёў, ганчароў. Па-другое, стварыць у «Горадзе майстроў» нешта накшталт каледжа, дзе б майстры маглі перадаваць свае сакрэты і вопыт маладым.

Яшчэ адна функцыя — выкананне заказаў грамадзян на бытавыя паслугі. І апошняе. «Горад майстроў», як культурны асяродак беларускіх народных умельцаў, мог бы прыцягнуць увагу нашых шматлікіх замежных гасцей і прынесці прыбытак у так неабходнай цвёрдай валюце.

Акрамя таго, мы прапануем арганізаваць у «Горадзе майстроў» фальклорны тэатр, адкрыць кафэ з народнай кухняй, цэх па вырабу сувенірных кандытарскіх вырабаў.

Але не ўсё тут адбываецца гладка. Нагадаю, што праз некалькі месяцаў пачнецца пераезд бісквітнай фабрыкі ў Дражню. Здавалася б, усе праблемы вырашаны. Але ж не! Аказалася, што гэтыя памяшканні знаходзяцца на балансе Дзяржаграпрома. А той не жадае так проста саступіць: маўляў, у сувязі з цяжкім становішчам у Гомелі не будзем закрываць яе. Але, як нам вядома, магутнасці новай фабрыкі на 25 працэнтаў перакрываюць неабходнае. Да таго ж, там не хапае кадраў.

Здавалася, ужо і надзею згубілі, але не так даўно атрымалі тэлекс... Яшчэ ў верасні мінулага года нас наведала японатайландская дэлегацыя па пытаннях аказання эканамічнай дапамогі і развіцця міжнароднага турызму.

Падпісаны пратакол намераў, дзе, у прыватнасці, ідзе размова пра стварэнне на базе памяшканняў фабрыкі, што на праспекце Машэрава ў Мінску, цэнтра народнага мастацтва — «Горада майстроў».

Ну а цяперашні дакумент за подпісам Старшыні Савета Міністраў, здаецца, павінен паставіць усе кропкі над «і».

А пакуль, каб захаваць помнік прамысловай архітэктуры — збудаванні фабрыкі на праспекце Машэрава,— нам неабходна як мага хутчэй перавесці іх на баланс Мінкульта Беларусі, прызнаць афіцыйна будынак фабрыкі помнікам архітэктуры XIX—XX стагоддзяў (такія прапановы ўнесены на разгляд у Мінгарвыканком і ГалоўАПУ), знайсці падрадчыкаў, якім можна было б размясціць заказ, распачаць праектныя работы.

Як бачыце, праблем шмат, і для вырашэння іх патрэбна таксама падтрымка грамадскасці, зацікаўленай лёсам свайго горада. Агульнымі намаганнямі мы павінны перамагчы страшэнную разбуральную псіхалогію, пад уплывам якой мы і так згубілі занадта шмат архітэктурных помнікаў нашай мінуўшчыны.

**Запісаў А. МЯЛЬГУЙ.**



**НА ЗДЫМКУ: так выглядаюць старыя муры фабрыкі сёння, а як будзе выглядаць «Горад майстроў», зроблены чужымі рукамі, мы абавязкова паведамім.**

## АТРЫМАНЫ НОВЫЯ САРТЫ



**Напярэдадні пасяўной новыя перспектыўныя сарты ячменю, гароху і аўса прапаноўваюць селекцыянеры Беларускага навукова-даследчага інстытута земляробства і кармоў. Сярод навінак — авёс «асілак». Сёлета ён будзе раянаваны па ўсёй Беларусі. Новы сорт апраўдвае сваю назву. Ён высокаўраджайны, зерне выдатнай якасці. Добры і ўраджай зялёнай масы: удвая вышэйшы за сарты, што вырошчваліся раней. Асабліва шмат увагі надаюць селекцыянеры гароху. Працягваюцца работы па вывядзенню новага высокаўраджайнага, устойлівага да палягання сорта «белус», які зможа даваць з гектара па 50 цэнтнераў бабовых. Заканчваецца распрацоўка перспектыўнага кармавога гароху «агат». Распрацавана таксама тэхналогія вырошчвання на нашых палях сорту гароху «волат» чэхаславацкай селекцыі. Праходзіць таксама дзяржаўныя выпрабаванні і авёс «голазёрны», які ўяўляе цікавасць для харчовай прамысловасці. Высокая ўраджайнасць дазваляе выкарыстоўваць яго і для адкорму маладняку і птушкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: ацэнку якасці селекцыйнага матэрыялу ва ўмовах штучнага клімату праводзяць спецыялісты лабараторыі селекцыі першаснага насенняводства і тэхналогіі вырошчвання ячменю Марыя ПРЫГУН, Міхаіл КАДЫРАЎ і Іна МЕЛЬНІК; новы сорт гароху «белус».**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**

КОСМАС І КАМЕРЦЫЯ

## ЦІ ПАБЫВАЕ АМЕРЫКАНЕЦ НА СТАНЦЫІ «МІР»

Мяркуючы па ўсім, шанцы на тое, што праз год-два грамадзянін ЗША правядзе тыдзень на савецкай арбітальнай станцыі «Мір», выглядаюць зусім рэальнымі. Па словах В. Нікіцкага, намесніка дырэктара знешнеэканамічнага аддзела Маскоўскага навукова-вытворчага аб'яднання «Энергія», «савецкі бок станоўча ставіцца да гэтай ідэі». В. Нікіцкі пацвердзіў, што 22 лістапада мінулага года прадстаўнікі «Энергіі» падпісалі з х'юстанскай прыватнай кампаніяй «Спейс комерс карпарэйшн», з якой навукова-вытворчае аб'яднанне супрацоўнічае ўжо пяць гадоў, дакумент на гэты конт.

Згодна з гэтым дакументам, пераможцу тэлефоннай латарэі ў ЗША будзе ў 1992 ці 1993 годзе прадастаўлена магчымасць адправіцца ў космас на борце карабля «Саюз» і прабыць тыдзень на станцыі «Мір».

Амерыканскі грамадзянін будзе не першым іншаземцам, якія наведваюць савецкую арбітальную станцыю, — у сумесных эксперыментах на арбіце ўжо ўдзельнічалі прадстаўнікі Францыі, Кубы і Усходняй Германіі. Аднак за выключэннем японскага журналіста Таяахіра Акіямы, які нядаўна наведаў «Мір», усе яны былі прафесійнымі касманаўтамі і доўгі час рыхтаваліся да касмічнай экспедыцыі.

Хаця палёт чалавека, які не мае прамых адносін да даследаванняў космасу, будзе мець галоўным чынам азнаямленчы характар, патрабаванні да стану яго здароўя будуць вельмі высокімі. Пераможца латарэі павінен будзе мець афіцыйны сертыфікат аб здароўі, выдадзены ў ЗША. Акрамя таго, яму прыйдзецца прайсці поўнае медыцынскае абследаванне ў СССР. Калі вынікі гэтага абследавання будуць станоўчымі, то ўладальнік «білета ў космас», паводле слоў В. Нікіцкага, павінен будзе прайсці ў СССР спецыяльную падрыхтоўку, што ўключае розныя трэніроўкі і курс рускай мовы.

Прадстаўнікі НВА «Энергія» не ўтойваюць, што, будучы энтузіястамі міжнароднага супрацоўніцтва ў космасе, яны ў немалой ступені зацікаўлены і ў чыста камерцыйным баку праекта. Агульны кошт кантракта пакуль не называецца, аднак ён будзе высокім. Канчатковы лёс праекта вырашыцца ўжо ў красавіку, калі павінна адбыцца падпісанне канкрэтнага двухбаковага пагаднення.

— Мы, са свайго боку, цалкам гатовы да ажыццяўлення гэтага праекта, — сцвярджае В. Нікіцкі. — Калі і амерыканскі бок настроены гэтак жа рашуча, поспех забяспечаны.

**Міхаіл НАКАРАКАЎ.**

## ВУЧАЦЦА ВАЕННЫЯ ІНЖЫНЕРЫ



**У розных кутках нашай Радзімы служаць выпускнікі Мінскага вышэйшага інжынернага зенітна-ракетнага вучылішча проціпаветранай абароны. Першых ваенных інжынераў яно выпусціла трыццаць пяць гадоў назад. Мінскае вучылішча ўнесла значны ўклад не толькі ва ўдасканаленне баявой тэхнікі, але і ў навуку. Прычым, да даследчых работ залучаюцца не толькі вядомыя вучоныя, што выкладаюць тут, але і курсанты — члены ваенна-навуковага таварыства вучылішча. Узровень кваліфікацыі выпускнікоў дазваляе ім прымяняць свае веды ў самых разнастайных галінах. Не выпадкова сёння многія кафедры вучылішча разам з ваеннай заняты грамадзянскай тэматыкай, а эканамічны эфект ад укаранення іх вынаходстваў у народную гаспадарку вылічваецца мільёнамі рублёў.**

**Дэмакратычныя працэсы ў грамадстве не маглі не ўнесці адчувальныя змяненні і ў жыццё вучылішча. Гэта знайшло сваё адлюстраванне не толькі ў пераарыентацыі чыста ваенных распрацовак на народнагаспадарчыя патрэбы, але і ў змяненні методыкі выкладання і ўмоў службы курсантаў. Адыход ад запартызаванасці тэматыкі, праводзімыя ў форме дыялогу заняткі, аналітычны падыход да грамадскіх і палітычных праблем — усё гэта адбіваецца на ўзроўні прафесіянальнай падрыхтоўкі. Сучасны ваенны інжынер цяпер павінен быць не толькі класным спецыялістам, але і высокаадукаваным чалавекам.**

**НА ЗДЫМКАХ: падрыхтоўка зенітна-ракетнага комплексу да работы; адзін з лепшых курсантаў другакурснік Эдуард ЯШЫН на практычных занятках.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**



АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

## ВІТАМІНЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ ЧАРНОБЫЛЯ

Паступленні ахвяраванняў, якія замежныя суайчыннікі накіроўваюць Беларускаму таварыству «Радзіма» на мэты ліквідавання вынікаў аварыі на ЧАЭС, сталі з'явай звыклай. За два гады, калі весці адлік ад моманту звароту шэрагу грамадскіх арганізацый рэспублікі да замежных беларусаў, толькі з Германіі таварыства атрымала медыкаментаў і прэпаратаў больш чым на 2 мільёны заходнегерманскіх марак. (Апроч таго, у хуткім часе з гэтай жа краіны чакаецца прыбыццё яшчэ адной партыі дабрачынных даткаў вагою 42 тоны, а з Канады — камп'ютэрнай тэхнікі).

Свой уклад у высакародную справу дапамогі ўносяць і нашы суайчыннікі, якія жывуць у Злучаных Штатах Амерыкі. Дапоўнім тыя прыклады, аб якіх ужо расказваў «Голас Радзімы», новым фактам. А дапаўняць прыйдзецца, пачынаючы... з 1912 года. Менавіта тады ў Чыкага было заснавана Рускае незалежнае таварыства ўзаемадапамогі. Пераважная большасць яго членаў як тады, так і цяпер мае беларускае паходжанне. І на сённяшні дзень іх колькасць перавышае тысячу чалавек. Аддзелы таварыства месцяцца ў трох штатах гэтай паўночнаамерыканскай краіны.

Чыкагскія беларусы з Рускага таварыства, старшынёй якога з'яўляецца Пітэр Харыс, адгукнуліся на вялікае бедства, што спасцігла Беларусь: сабралі 10 тысяч долараў і на гэтую суму закупілі 650 кілаграмаў вітамінаў. Закупілі і пераслалі таварыству «Радзіма» з наказам перадаць іх дзецям, ахвярам радыяцыйнага нашэсця. Наказ здзейснены. Днямі Беларускае таварыства «Радзіма» перадало гэтыя вітаміны шматлікім дзіцячым установам, сярод якіх Мінская абласная бальніца, дзіцячая цэнтральная бальніца горада Валожына, дзіцячыя санаторыі «Дружба» і «Зубраня», мінская гарадская дзіцячая паліклініка № 23 у Фрунзенскім раёне. Матывацыяй выбару адрасатаў служылі парады і рэкамендацыі Чырвонага Крыжа і Міністэрства аховы здароўя БССР. Па просьбе народнага дэпутата БССР Ігара Герменчука амерыканскія вітаміны атрымаў дзіцячы сад у Калодзішчах.

У сваёй сукупнасці, як было сказана на цырымоніі перадачы, гэтымі 650 кілаграмамі вітамінаў можна падмацоўваць здароўе дзяцей на працягу двух месяцаў.

Прадстаўнікі названых аздараўленчых устаноў выказалі вялікую ўдзячнасць чыкагскім суайчыннікам.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

Сяргей ФЁДАРАЎ: ЗАСТАЮСЯ ГРАМАДЗЯНІНАМ СССР

## «Я БЫЎ ХАКЕЙНЫМ БОМЖАМ»

**Уцёкі нападаючага ЦСКА і зборнай СССР Сяргея Фёдарава, выхаванца беларускага хакея, выклікалі летась сапраўдную сенсацыю ў хакейных колах. 20-гадовы двойчы чэмпіён свету, ледзь ці не самы таленавіты з маладой плеяды савецкіх ігракоў, прыехаўшы ў ліпені ў Сіэтл на Гульні добрай волі, пажадаў застацца ў Канадзе. Выступаць ён стаў за клуб горада Дэтройта «Рэд Уінгз». З таго часу з-за акіяна даносіліся чуткі, нібыта гуляе Сяргей у НХЛ нядрэнна, нібыта нават і шайбы закідвае... Зрэшты, у недахопе інфармацыі вінаваты часткова і сам Фёдараў, які ўпарта старонніцца журналістаў. Таму да самага апошняга моманту — да таго, пакуль у трубцы не прагучала яго «хэлоў!» — не верылася, што тэлефонная размова, аб якой даўно дамаўляліся, адбудзецца.**

— Вы першы,— пачаў Сяргей,— каму вырашыў адкрыць душу. Не магу больш у сабе насіць. Прызнайцеся, напэўна, усе мяне лічаць адшчэпенцам, здраднікам Радзімы і да таго падобнае.

*— Што ж, ёсць і такое меркаванне. Але ўсё ж для большасці ўцёкі Фёдарава — загадка. Няясныя матывы.*

— Матывы? Я ж быў у Саюзе хакейным бомжам (чалавек без пэўнага месца пражывання). Без прапіскі, кватэры... Перад Сіэтлам прыехаў на некалькі дзён адпачыць у Дагамыс, дык мяне ў гасцініцы пасяліць адмовіліся. Менавіта там, седзячы ў дзяжурцы насупраць міліцыянера, да якога мяне адправіла адміністратар «для высвятлення асобы», я і вырашыў канчаткова: усё, хопіць.

*— Двухразовы чэмпіён свету, надзея зборнай... Як магло такое здарыцца?*

— Адслужыўшы ў арміі тэрміновую, я наадрэз адмовіўся надзець афіцэрскія пагоны. Але трэба ведаць трэнера Ціханава. Ён не дапускае, каб у армейскім клубе мог гуляць цывільны. Я ж тады, па наіўнасці, лічыў, што мне, не апошняму іграку клуба і зборнай, Віктар Васільевіч пойдзе насустрач. Але для яго я аказаўся звычайным робатам-хакеістам, хіба што яшчэ больш бяспраўным, таму што, у адрозненне ад іншых армейцаў, не меў не толькі маскоўскай, але і ўвогуле ніякай прапіскі: перад пераездам у сталіцу я выпісаўся з Мінска. Вось цяпер разумею: для Ціханава ў хакеі існуе адзінадзіны аўтарытэт — ён сам.

Паверце, паіграўшы ў НХЛ амаль сезон, я ўжо не трымаю крыўды на свайго былога трэнера. Яна змянілася здзіўленнем. У кампаніі сапраўдных профі ўчынкі Віктара Васільевіча ўспамінаюцца як кашмарны сон. Напрыклад, каб я расказаў у Канадзе, што трэнер здольны адмяніць рашэнне ўрача і адправіць хворага хакеіста на пляцоўку — з мяне б пачалі смяяцца. У ЦСКА ж гэта звычайныя рэчы. Помніцца, у студзені лёгкую траўму атрымаў, і так супала, што яшчэ шэсць дэтройцаў са строю выйшлі. Здавалася б, калі ўжо такое становішча, то з маёй несур'ёзнай хваробай можна і пагуляць. Але не, дзесяць дзён трэнеры на лёд не выпускалі, хаця камандзе быў патрэбен пазарэз.

*— Канфлікты Ціханава з вядучымі ігракамі не рэдкасць. Выходзіць, уся справа ў яго няўжыўчывым характары?*

— Прасцей за ўсё было б растлумачыць мой учынак канфліктам трэнера з вучнем. Але Віктар Васільевіч, на мой погляд,—параджэнне сістэмы армейскага спорту, дзе ўсё будуецца на падаўленні асобы спартсмена. Яна, гэтая сістэма, робіць яго бяспраўным, а настаўнікаў — вяршыцелямі лёсаў. Слова трэнера — закон? Згодзен. Больш таго, у НХЛ яго слова — суперзакон! Аднак у Канадзе чамусьці хакеісты не адчуваюць сябе прыніжанымі і зняважанымі, а з трэнерамі падтрымліваюць па-сапраўднаму таварыскія адносіны. Я працягваю сачыць за чэмпіянатам СССР па газетах, ды і хлопцы з ЦСКА не забываюць — званяць, а калі бываюць у Канадзе, заходзяць да мяне дамоў. Нядаўна даведаўся, што пасля нічыйнага матча ў Рызе Ціханаў ім заявіў: «Забудзьцеся пра сем'і. Да канца чэмпіяната ніхто базу не пакіне». Нават хворага Краўчука не адпусціў, пакінуў ляжаць з тэмпературай 39 у адным нумары са здаровым Каменскім. Я гэта вось да чаго. У НХЛ самы працяглы збор — два тыдні перад пачаткам сезона, прычым, калі хочаш, можаш ездзіць начаваць дадому. Параўноўваючы два такія розныя трэнерскія падыходы, міжволі задаешся: няўжо такі вопытны спецыяліст, як Ціханаў, не разумее, што паўтурэмны рэжым толькі стамляе спартсменаў? Не, не пра спартыўную форму клапоціцца ён. Усе яго метады праследуюць адну мэту — ігрок, якім бы выдатным ён ні быў, павінен зведзаць комплекс непаўнацэннасці. І ведаеце, я з гэтага часу не пазбавіўся ад яго да канца, хаця займаю цвёрдае першае месца сярод навічкоў НХЛ і ўваходжу ў лік 15 мацнейшых хакеістаў усёй лігі па сістэме гол плюс пас.

*— Цябе, гавораць, параўноўваюць з Лемье ў маладосці...*

— Так, тут любяць параўноўваць. Спачатку ўсё прасілі параўнаць НХЛ з савецкім хакеем. Свежым поглядам, так сказаць. А ў мяне перад вачыма ўсё той міліцыянер ў гасцінічнай дзяжурцы, які цадзіў праз зубы: «Які ж вы, таварыш Фёдараў, хакеіст? У вас у пашпарце нават месца жыхарства не прастаўлена...»

*— Дык што, дарогі назад няма?*

— Відаць. Зрэшты, я застаюся грамадзянінам СССР і фармальна маю права нават выступіць за нашу зборную на чэмпіянаце свету. Дарэчы, калі Віктар Васільевіч запросіць, не адмоўлюся. Змагу і пашпарт прад'явіць. Праўда, я там бомжам выглядаю, ну ды мне не прывыкаць.

**Гутарку вёў А. МАРГІН.**

## ПРЫЧЫНІЦЦА ДА РОДНАЙ КУЛЬТУРЫ

# ...ТВАЁ ВЯЛІКАЕ КАХАННЕ БЕЛАРУСІ— БОЛЬШАЕ ЗА СЬМЕРЦЬ

Адкуль сучасны чалавек ведае сваю гісторыю? Вядома, з падручнікаў. Кожны школьнік ведае, што на Беларусі працавалі Мяснікоў, Дзяржынскі, Урыцкі, Фрунзе, пра іх напісаны кнігі, іх імёны носяць вуліцы, праспекты, нават і музеі створаны. 70 гадоў гісторыю пісалі. Менавіта пісалі, а не стваралася яна. Толькі сёння мы маем магчымасць даведацца пра тых людзей, якім душа балела за Беларусь. На жаль, звестак вельмі мала, бо іх імёны стараліся сцерці з нашай памяці. Зараз адкрываюцца архівы, спецсховы. А часам гартаючы старыя газеты і часопісы, зведваеш дзіўнае пачуццё: быццам машына часу дапамагае ўбачыць твары і лёсы людзей, якія ўжо даўно памерлі. Зараз той, хто ўсур'ёз цікавіцца беларускай гісторыяй, мае магчымасць прычыніцца да роднай культуры, яе вытокаў, яе спадчыны. Апантаныя, што працавалі на ніве беларускай культуры, былі заўсёды. Як бы цяжка працаваць ім ні даводзілася.

Якія розныя імёны... Знаёмыя і не вельмі. Алаізія Пашкевічанка (Цётка), Іван Луцкевіч, Алесь Гарун, Максім Багдановіч, Аляксандр Бурбіс, Лявон Гмырак, Тэцька Станішэўская...

Лёс кожнага з гэтых людзей цікавы і цяжкі, усе яны пакінулі значны след у беларускай культуры. Для нас гэта ўжо далёкая гісторыя, але ёсць магчымасць зірнуць на гэтыя постаці вачыма іх сучаснікаў.

**Пра Івана ЛУЦКЕВІЧА ўспамінае сябар яго маладосці А. УЛАСАЎ (газета «Сына Беларуса» № 29, 1924 г.)**

«Стары правінцыяльны Менск... Садовая вуліца, каля Плябанскага млына... Прайшоўшыя маладыя гады!

Іван — страшна юркі і з добрым нюхам да ўсяго, што датыкалася старых кніг і дакументаў. Ён неяк па інтуіцыі мог уваскрашаць са старых пэргаментаў людзей і старыя вякі.

Быў вучнем старога археолага мінчука Генрыха Татуры. Сядзелі мы гадзінамі ў кватэры старога дзівака, падобнага да прарока Елісея, лысага, з рудой барадой. Татур — тып дэмакрата часоў Сымона Канарскага.

Стары і малы гадзінамі з захапленнем спорылі аб гістарычнай абстаноўцы якога-небудзь факту з жыцця Саламерэцкіх князёў альбо старой гісторыі Менску часоў пагрому яго Валадзімірам Манамахам. Пры гэтым абодва выказвалі надзвычайную эрудыцыю і былі ў кожнай эпохе, як у сваім кішані. Як бліскавіцай, асвятлялі і гэты край, і падзеі беларускага народу. «Северо-Западный край» неяк прападаў; індывідуальнасць Беларуска-Літоўскага Гаспадарства ўваскрасала, як у даўнія часы.

Японская вайна, рэвалюцыя 1906 году надламала феадальна-царскі лад. Мы пайшлі з-пад ціхіх бацькоўскіх стрэх да гарачых гутарак аб беларушчыне ў чатырох сценах — на публічную грамадзянскую працу. Шырокія слаі беларускай інтэлігенцыі ўскалыхнуліся, ускалыхнулася і беларуская сялянская думка, збудзіўшыся са сну.

Івану першаму прыйшла смелая думка выдаць газету беларускую — першую легальную газету пасля падпольных беларускіх пракламацыяў; не захаваліся яны, на жаль, а даставалася там самадзяржаўю, трэбавалася зямля і воля і аўтаномія Беларусі з Соймам у Вільні або Менску...

Мала грошай, многа працы і афёр пайшло за гэта. Пры ўкладанні «Нашай Нівы» вялізная марудная праца йшла над кожным словам. Тварылася літаратурная мова. Першыя паўтрацця году пісалі «нашаніўцы» ад 12 гадзін вечара да рана, бо ў дзень народ безупынна адрываў ад пісання. Неўгамонны Іван працаваў ня толькі пры нададванні кірунку «Нашай Нівы», але і ў развіцці ўсіх бакоў беларускасці. Збіраў свой музей, і ніхто ня хоча верыць цяпер, што наш нацыянальны музей у Вільні сапраўды сабр[illegible] калезнай воляй і працай [illegible]ага чалавека — Івана Луцкевіча.

У кожным новым пачынанні беларускім Іван быў як нейкі прарок. Вось дробны прыклад. Іван сказаў: «Лезьце ў Базыліянскія муры: яны [illegible]шыя!» Так і сталася.

Жартавалі, што Івана ведаець на Беларусі 10 працэнтаў жыхароў з твару, заўсёды знаёмствы яго былі надзвычайна шырокія, усё жыццё насіўся, як метэор.

У нямецкую акупацыю ён застаўся ў Вільні пры сваім музеі і пры сваёй беларускай справе. І фронт блізу ўжо назаўсёды нас раздзяліў.

Увесь час праз 15 гадоў на Іване ляжаў вялікі цяжар: даставаць грошы на ўсю нашу працу. Гандляваў археалагічнымі рэчамі, так і сяк круціўся, каб дастаць грошы, і заўсёды яму гэта ўдавалася. У сваім прыватным жыцці ён быў суровы спартанец. Але «ўкаталі Бурку крутыя горкі». Праца з'ела здароўе. Цягнуў ярмо да астатняга ўздоху і на загоне родным паваліўся...»

Такі быў Іван Луцкевіч у жыцці. Сціплы і смелы, перакананы ў вялікай ідэі адраджэння Беларусі, усяго сябе без астатку аддаваў справе.

Не дажыў Іван Луцкевіч да нашага часу, а то б ён вельмі здзівіўся, што сёння, больш як праз 70 гадоў пасля ягонай смерці, яго ідэі, мэты і заклікі не страцілі актуальнасці, што новыя людзі становяцца пад сцяг адраджэння сваёй зямлі.

Не менш яскравае, асвечанае вялікай любоўю да людзей і Бацькаўшчыны, а таксама надзвычай трагічнае было жыццё Тэцькі Станішэўскай. Як жа мала яна пражыла! Усяго 21 год. На жаль, смерць забірае заўсёды лепшых. Адкуль толькі ў гэтай дзяўчыны знайшлося столькі сіл на барацьбу, бо ўпершыню сярод свядомага беларускага грамадства яна з'явілася ў 1914 годзе ў Вільні, калі ёй было ўсяго 16 гадоў.

**А зараз давайце паглядзім на Тэклю СТАНІШЭЎСКУЮ вачыма яе сябра ЯНУЧОНКА. Яго ўспаміны надрукаваны ў газеце «Беларуская думка» № 13 за 1919 год.**

«...Жыццё Тэклі Станішэўскай было адной працаю, адной барацьбою за беларускую справу... У 1916 годзе, як сябра Беларускае музычна-драматычнае дружыны, прымае вельмі жывое ўчасьце ў беларускім тэатры; яна часта гуляе (іграе) на сцэне і асабліва вельмі хораша дэклямуе.

Паступіўшы ў 1916 годзе на Беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні і скончыўшы іх, едзе вучыцелькай у Горадзень (Гродну).

Горадзень у той час з беларускага боку быў пустыняю. Свядомая беларуская моладзь з надыходам немцаў была або вывезена, або сама рассыпалася па ўсходняй Беларусі і Маскоўшчыне. У Горадні бушавала польская чорная сотня, каторая, карыстаючыся з прыходу немцаў, захацела спалянізаваць гэтае спрадвечнае беларускае месца і гэтай мэтаю натужала ўсе свае сілы. Над усім беларускім быў здзек. З другога боку, праваслаўная царкоўная служба, што асталася пасля выехаўшых у Маскоўшчыну праваслаўных свяшчэннікаў, пры сваім фанацізме і цемнаце была найвялікшым прыяцелем усяго маскоўскага і непрыяцелем беларускага, што пры тым уплыве на народ, які гэная служба мела падчас нямецкай акупацыі, перадавалася і самому народу. І вось на долю маладой беларускай вучылькі-патрыёткі прыйшлося зламаць першы лёд і непрыязнь людзей, якія былі пад уплывам чужых нацыянальнасцей.

Аднак гарачая, шчырая і сістэматычная праца Тэклі Станішэўскай робяць сваё. Як сапраўды свядомая беларуска, яна ставілася аднолькава як да беларусаў праваслаўных, так і да беларусаў каталікоў і дзеля гэтага, будучы сама каталічкай, здабыла агульную сімпатыю і сярод праваслаўнага горадзенскага насялення.

Праца Тэклі Станішэўскай у Горадні была безупыннай барацьбой за беларускае адраджэнне і за беларускую школу. Прыйшлося весці барацьбу не толькі з русіфікацыяй і паланізацыяй, але і з нямецкай уладаю. Немцы стараліся як найболей увесці ў школу нямецкіх прадметаў. З гэтым ходалася Т. Станішэўская і ходалася ўдачна. І яе за яе абарону нацыянальных правоў, хоць бы ад нямецкай акупацыйнай улады, і немцы яе паважалі.

Скора Тэклі Станішэўскай прыйшоў на помач малады і энергічны Аляксандр Грыкоўскі. Усвядомлены ёю Грыкоўскі горача прыняўся за працу, і работа ўдваіх пайшла спарней. Маладым беларускім адраджэнцам-вучыцелям прыходзілася кожны крок здабываць упорнай, доўгай і сістэматычнай працаю. Першаходы былі нязвычайныя. Усе іх пералічваць няма тут ніякай магчымасці. Праціўнікі беларускага адраджэння не грэбавалі ніякімі спосабамі барацьбы проціў беларускіх дзеячоў і ўсё імі ўжывалася ад звычайнай агітацыі да абвінавачання перад нямецкай уладаю ў расейскім шпіёнстве.

Але смелая і энергічная праца беларускіх працаўнікоў зрабіла сваё. Школа стала на цвёрды грунт, дзяцей хадзіла шмат, бацькі пасылалі ахвотна. Скрануўся з вялікай сілай беларускі рух у Горадні. Зазіхацелі гарызонты. Пачалася шырокая грамадская праца, участя ў каторай не здолела ўжо прыняць так заўсёды рупная Тэкля Станішэўская. Кволае здароўе маладой дзяўчыны ня выдзержала, і яна бязмална адначасна з сваім сябрам па працы вуч. А. Грыкоўскім захварэла на сухоты. Улетку 1918 года Тэкля Станішэўская прыехала ў Вільню і ўжо болей не варочалася ў Горадзень. У Вільні яна лячылася ад сухот і працавала, колькі магла, у беларускім прытулку «Золак» і ў Беларускай кнігарні.

У сакавіку 1919 году яна злягла ў літоўскай клініцы. У сераду 21-га мая Тэкля Станішэўская ўмерла, на два месяцы пазней за А. Грыкоўскага. 23-га мая пахаван[illegible] Россе побач з сваім бацьк[illegible]. На магілку яе ўзложаны ад Беларускага вучыцельскага саюзу вянок жывых красак з надпісам «Шчырай працаўніцы на роднай ніве».

Такая яна была, Тэцька. Жыццё — нібыта зорка. Ярка ўспыхн[illegible]ле хутка пагасне. Хто ў[illegible]ць яе, назаўсёды запомніць гарачы агеньчык і ласкавы свет, што зыходзіць ад яе.

Калі гартаеш газеты 20-х гадоў, то разумееш, як шмат людзей беларускага адраджэння забрала грамадзянская і сусветная войны. Сярод іх быў Аляксандр Бурбіс — адзін з найстарэйшых дзеячаў Беларускае Сацыялістычнае Грамады, няўтомны арганізатар беларускага тэатра, выдатны адраджэнец. Ён памёр ад сухотаў на грунце ваенных перажыванняў, галадання і празмернай працы.

Вялікім сябрам і аднадумцам А. Бурбіса быў Ігнат Буйніцкі, які паклаў многа сіл дзеля развіцця беларускага тэатра, арганізуючы разам з Бурбісам спектаклі ў Вільні і на правінцыі.

**Вельмі шчыра ўспамінае пра Ігната БУЙНІЦКАГА ў адным з нумароў газеты «Сын Беларуса» за 1924 год ЗЯЗЮЛЯ.**

«Беларускае грамадзянства Вільні, Менску, Слуцку, Нясвіжу, Вялейкі, Ашмян, Смаргоні, Маладзечна і г. д., усе ўспамінаюць добрым словам таго грамадзяніна, які праз усё сваё жыццё ішоў простым шляхам, імкнучыся да паправы гаротнага жыцця нашага народу. Асабліва няхай успомніць яго Дзісеншчына, дзе ён гадаваўся, працаваў на карысць сялянскага люду і на ўмацаванне беларускай ідэі.

Хто з сялан Дзісеншчыны, а найбольш Празароччыны не памятае гэтага «пана» па свайму паходжанню і палажэнню, але разам з тым і простага, сярмяжнага беларуса ў душы? Ні радавітасць, ні багацце — нішто так не было дарага І. Буйніцкаму, як наш бедны, цёмны селянін, нішто так не балела яму, як народная нядоля.

Не буду казаць аб яго працы на беларускай культурнай ніве; аб гэтым добра павінны ведаць і судзіць нашыя існуючыя культурныя ўстановы і дзеячы. Застанаўлюся толькі на яго адносінах у штодзённым жыцці да нашага сялянства.

Адзін яскравы выпадак. З аднае вёскі Празароцкае воласці бяруць селяніна на вайну. Астаецца жонка з малымі дзецьмі. Кабета ўскорасці захварэла і памерла. Асталася куча дзяцей, нічога няма, хоць плач! І. Буйніцкі зараз едзе ў вёску, возіцца з дзяцьмі, выпісвае да іх сястру міласэрдзя і да прыезду бацькі глядзіць бедных сіротак, як найлепшы бацька.

Сусветная вайна падарвала сілы І. Буйніцкага. 19-га верасня 1917 года гэты неўтамімы працаўнік нашае ідэі памёр каля Гарадка Вялейскага павета, дзе служыў у бальніцы. Памёр сярод ваеннай завірухі, невядомы, як і іншыя дзеячы, памяць аб якіх, аднак, жыве і будзе жыць, пакуль жыве наша Беларусь».

Такі ж гаротны і вельмі кароткі век быў і ў Лявона Гмырака (М. Баброўча) — маладога і надта здольнага публіцыста, працаваўшага ў «Нашай ніве». Выдатная рэвалюцыйная сіла. Вядомы таксама як белетрыст, пад псеўданімам Б. Заяц. Родам з Віленшчыны. Радзіўся 6 красавіка 1891 года. Забіты ў бітве пад Коўнай 30 чэрвеня 1915 года.

Ад крываўкі, панаваўшай сярод войска, памёр вялікі беларускі паэт і грамадскі дзеяч Меншчыны, колішні ссыльна-пасяленец у Сібіры (за рэвалюцыйную працу ў 1905 годзе) Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун). Вось прачытайце, калі ласка, толькі некалькі яго радкоў. Аніякай «злосці» да ворага. Вялікі гуманізм і любоў да людзей — у вершах Гаруна:

**Будзе праціўнік пабіты ляжаць,**
**— Ты пашкадуй яго, брат!**
**Раны завяжаш, паможаш устаць:**
**І ён — чалавек і салдат.**

**Брат, у далёкай сваёй старане**
**Мае ён дзетак, сям'ю...**
**Помста, ці хцівасць цябе як штурхне,**
**Успомні сямейку сваю!**

**Страсці, цноце ня помні ўраз,**
**Гэтым сумлення ня плям.**
**Быў чалавекам ты, браце, у нас,**
**Быў чалавекам і там!**

Такія яны былі. Перакананыя ў сваёй справе, прысвяціўшыя ўсё сваё жыццё без астатку роднаму народу, беларускай ніве. Усе верылі ў вялікія ідэі адраджэння, росквіт роднай культуры. І калі бліжэй дакранаешся да іх жыцця, то здзіўляешся, адкуль знайшлося столькі сіл і энергіі, як жа трэба любіць людзей і сваю зямлю, каб цалкам, без астатку прысвяціць сваё жыццё адукацыі народа, узбагачэнню яго духоўнага і культурнага ўзроўню.

На жаль, аб іх напісана вельмі мала. І таму я звяртаюся да ўсіх чытачоў газеты. Можа хто ведае пра нашых адраджэнцаў ад сваіх родных, знаёмых, можа засталіся якія-небудзь дакументы? Калі ласка, давайце разам з вамі будзем знішчаць белыя плямы нашай гісторыі, бо, толькі даведаўшыся праўду аб сваёй спадчыне, мы зможам знайсці адзіна правільнае выйсце з нашага цяжкага становішча, бо справа ідзе аб духоўным адраджэнні нацыі, выхаванні нашых дзяцей, бо калі нічога не застаецца святога — гіне культура, гіне і народ.

**Наталля СЦЯЖКО.**

# ВАНДРОЎКІ ПА ЗГУБЛЕНЫМ ГОРАДЗЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

вынікі ваеннага ліхалецця. Зразумела, зусім скідваць з рахункаў іх нельга, але куды больш мінскіх помнікаў знікла без войнаў, менавіта ў савецкі перыяд. Раней гэтая акалічнасць ці глуха замоўчвалася, ці істотна змякчалася. Аўтары ж новай кніжкі шчыра пішуць: «...чым апраўдаць разбурэнне старога Мінска, распачатае (і, на жаль, не скончанае па сённяшні дзень) з канца 40-х гадоў?.. праз цямноту чыноўнікаў, у выніку прафесійнай іх недасведчанасці нішчыліся і перабудоўваліся... **ацалелыя** (выдзелена аўтарамі.— **М. З.**) помнікі архітэктуры, гістарычныя будынкі... Страчаны цэласны вобраз гістарычнага Мінска. Мы згубілі горад... Мы страцілі свае святыя мясціны».

Нават адны назвы тэматычных раздзелаў кніжкі (Візітная картка горада. Гараджане. Гарадское асяроддзе. Ахова здароўя і асвета. Вітрына гарадскога жыцця. Старыя мінскія адрасы) даюць усе падставы меркаваць, што перад намі не чарговае, шэра-сумнае, нашпіГаванае абрыдлай дагматыкай «гістарычнае даследаванне», а шматпланавая, шматмерная шырокая панарама сталічнай мінуўшчыны. Пачынаеш чытаць — і адразу ўпэўніваешся, што праўдзівую жыццёвую панараму стварае калейдаскоп з мноства дакументальных, далёка не трафарэтных фактаў, якія, захапляючы сваёй навізной і нязвыкласцю, мільгаюць з такой імклівасцю, што часам даводзіцца прымушаць сябе на хвіліну-другую спыніцца, каб яшчэ раз з асалодай учытацца ў радкі.

Фактаў — арыгінальных і, як кажуць, самых розных — у кнізе, сапраўды, лічыць не злічыць. Аўтары вельмі добра зрабілі, што спачатку далі падрабязна-дакладную гістарычную тапаграфію Мінска на памежжы стагоддзяў. Гэта неабходна, бо сёння, відаць, ужо рэдка хто з мінчукоў здолее паказаць без памылак, дзе, скажам, даўней узвышалася знакамітая Траецкая гара, якое месца некалі звалася Залатой Горкай (хоць адрэстаўраваны Залатагорскі касцёл радуе вока і зараз), дзе знаходзіліся тады Старажоўка (Пярэспа), Камароўка, Ніжні рынак, Ляхаўка, Серабранка, Татарскі канец, Уборкі, Добрыя Мыслі і Верхні горад. Далей чытач сцісла знаёміцца з існаваўшым адміністрацыйным падзелам, з прамысловасцю і мясцовым гандлем, пазыкова-крэдытнай сістэмай, з органамі кіравання і палітычнымі партыямі нашай сталіцы тых, ужо няблізкіх гадоў. Пасля прапануецца сустрэча з жывой гісторыяй горада — з мінскімі гараджанамі. Гартаеш адну за другой старонкі кніжкі — і паступова з забыцця нібыта ажывае стракатая, яркая галерэя жыхароў тагачаснага Мінска: ад беспрацоўных і люмпенаў да «бацькоў горада» і губернатараў. Адзначым, што аўтары, рэзка адыходзячы ад усталяваных стэрэатыпаў нашага без меры заідэалагізаванага мыслення, неаднойчы падкрэсліваюць: літаральна ўсе гараджане з'яўляліся перш за ўсё жывымі людзьмі і толькі пасля — рамізнікамі і гандлярамі, чыноўнікамі і фабрыкантамі, пралетарыямі і паліцэйскімі. Доказна, на канкрэтных фактах даводзіцца, што працоўныя Мінска, напрыклад, даўней не толькі без перадыху гаравалі ды бедавалі, неадступна думаючы аб барыкадах і нелегальных сходках (чым дзесяцігоддзі нам назойліва забівалі галовы «вучоныя» ды афіцыйная прапаганда), а яшчэ і адпачывалі, кахалі, верылі і марылі, бралі шлюбы, гадавалі дзетак, хадзілі ў госці, наведвалі цырульні, лазні, часам — тэатры, пазней — і кінематограф. Мінчукі належалі да розных рэлігійных канфесій, ' яны, натуральна, не абых лі цэрквы, касцёлы, сінагогі, мячэць і лютэранскую кірху. Гараджане бавілі вольны час у Губернатарскім садзе (цяпер парк імя М. Горкага), у більярдных, незлічоных тракцірах, аустэрыях (нешта падобнае / ічасных кафэ), дзе гулялі ў ,ты, пілі піва, віно і гарэліцу, са смакам закусвалі. Чытаючы кнігу, бачым, што ўсё гэта займала зусім не апошняе месца ў жыцці насельнікаў Мінска. І не толькі, дарэчы, таму, як слушна сцвярджаюць у падтэксце аўтары, што былі яны татальна маласвядомымі, а найперш таму, што яны былі... жывымі людзьмі. Такім чынам аўтары пры ўзнаўленні сталічнай мінуўшчыны актыўна карыстаюцца гуманістычным падыходам да гістарычных фактаў — творчым метадам, які звычайна ігнараваўся большасцю савецкіх даследчыкаў.

У навіну, відаць, будзе многім з нашых сучаснікаў прачытаць, што яшчэ ў 1892 годзе вадаправод абслугоўваў 28 цэнтральных вуліц губернскага Мінска (мінскі водаправод лічыўся тады адным з буйнейшых у Расійскай імперыі), што праз тры гады тут ужо весела загарэліся лямпачкі ад мясцовай электрастанцыі, што кабельная тэлефонная сувязь — цяжка паверыць! — стала працуе ў нашай сталіцы ўжо аж цэлае стагоддзе, а напярэдадні першай сусветнай вайны адсюль пралягла і міжгародняя тэлефонная лінія (адна з чатырох, існаваўшых у Расіі), якая надзейна звязала горад з павятовым Барысавам.

Тэме духоўнага жыцця горада, якая доўгі час заставалася комплексна маладаследаванай, прысвечана да палавіны ўсяго зместу кнігі. Пераканаўча падкрэслена, што ў фарміраванні светапогляду гараджан прыкметную ролю адыгрывала мінская ліберальная інтэлігенцыя: выкладчыкі школ і гімназій, вучнёўская моладзь, службоўцы, прадстаўнікі так званых вольных прафесій, частка вакольных памешчыкаў і афіцэраў тутэйшага гарнізона. У гэтым якраз асяроддзі знаходзілі не толькі разуменне, а і практычную падтрымку перадавыя, у тым ліку нацыянальна-адраджэнскія і нацыянальна-вызваленчыя ідэі. Чытачу прапануецца захапляючае знаёмства з навучальнымі ўстановамі горада, з мінскім тэатрам, на падмостках якога з сапраўдным трыумфам часта выступалі славутыя гастралёры, зоркі першай велічыні: М. Савіна, В. Камісаржэўская, М. Петыпа, М. Старыцкі, Ф. Шаляпін, Л. Собінаў. Зельмі цікава расказваецца аб паяўленні на мінскай сцэне нашага прафесійнага нацыянальнага тэатра — Першай беларускай трупы пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага, якая летам 1911 года ў тэатральнай зале «Парыж» вынесла на суд мінчукоў спектаклі «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага і «Модны шляхцюк» К. Каганца.

Мы знаёмімся з мастацкімі выставамі горада, пабываем на сімфанічных канцэртах, разам пагартаем старонкі першага неафіцыйнага легальнага перыядычнага выдання ў Беларусі — грамадска-літаратурнай газеты «Минский листок», дзе, у прыватнасці, друкаваў свае вершы таленавіты беларускі паэт, дэмакрат, мінчук Янка Лучына (пахаваны паблізу касцёла на сталічных Кальварыйскіх могілках), дзе ў 1889 годзе з'явілася бессмяротная беларуская паэма «Тарас на Парнасе», аўтарства якой доказна не высветлена па сённяшні дзень. Не абдзелены ўвагай іншыя газеты, якія выходзілі ў Мінску. Кніжка знаёміць з шасцю культурна-асветніцкімі і дабрадзейнымі мінскімі таварыствамі (аматараў прыгожых мастацтваў, сельскай гаспадаркі, аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі, аказання дапамогі пацярпеўшым ад вайны, аховы жанчын), з дзейнасцю Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта. Усё гэта — неад'емныя рысы маляўнічага, перанасычанага вірлівым жыццём партрэта нашай сталіцы ў мінулым.

Але не трэба думаць, што аўтары гоняцца толькі за арыгінальнымі, дагэтуль невядомымі фактамі з мінскай мінуўшчыны. Факталогія ў кніжцы — толькі фон. Самае ж прывабнае іншае: аўтары ў большасці выпадкаў нікому не навязваюць свайго ўласнага пункту гледжання на падзеі, на гарадскія праблемы. Вельмі характэрна, што нам прапануецца самастойна падсумоўваць прачытанае, каб самастойна дайсці да прынцыповых высноў. Адной з такіх высноў, спадзяёмся, будуць сумненні наконт праўдзівасці яшчэ жывога, на жаль, тэзіса, паводле якога дакастрычніцкая Беларусь нібыта з'яўлялася «адсталай ускраінай царск... сіі». Чытаючы кніжку, ко... абавязкова і непазбежна ўпэўніцца, што адкуль ні глянь, а наш Мінск на памежжы стагоддзяў ні ў якім разе нельга адносіць да глухіх, забітых і змрочных перыферыйны... ...нтраў у часы так званай « ...лятай мінуўшчыны». Але ж ...аліца — люстэрка ўсяго арганізма, свайго роднага краю. Значыць, усе развагі адносна нейкай татальнай адсталасці Беларусі — яшчэ адзін псеўданавуковы міф, поўны зняважлівага для годнасці беларусаў паклёпу.

Апошні раздзел кніжкі «Старыя мінскія адрасы» не мае, увогуле, адпаведных аналагаў сярод усёй гістарычнай літаратуры, прысвечанай мінуўшчыне нашай сталіцы. Мы па сутнасці маем цяпер першы ўсеахопны навуковы даведнік мінскай мінуўшчыны. Галоўнае — ён абавязкова павінен далучыць мінчукоў да сапраўднай, дакументальнай гісторыі іх роднага горада. Дарэчы, нядаўна выпадкам давялося ўбачыць, як гэта кніжка разыходзілася ў трох цэнтральных мінскіх кнігарнях. Каля тысячы экземпляраў было раскуплена імгненна. Куплялі, у асноўным, маладыя жыхары беларускай сталіцы, відаць, ужо карэнныя мінчукі.

Сустракаюцца ў кніжцы і прыватныя недахопы. Сям-там глухім рэхам адгукаецца ўчарашняе, строга рэгламентаванае, раскладзенае па палічках мысленне. З асобнымі месцамі ў кнізе цяжка пагадзіцца. Напрыклад, на стар. 11 змешчаны нацыянальны склад гараджан, паводле якога больш палавіны насельніцтва, 54,4 працэнта — рускія, палякі і беларусы (беларусаў толькі 8,2 працэнта). Праўда, аўтары ніжэй пішуць, што «вага беларусаў... зніжана (бо)... царскія чыноўнікі часта залічвалі праваслаўных да рускіх, католікаў — да палякаў». Але ж гэтак рабілася, удакладнім, не «часта», а скрозь і заўсёды. Дакладныя крытэрыі вызначэння нацыянальнай прыналежнасці хрысціянскага насельніцтва дакастрычнцікай Беларусі знайсці ўвогуле наўрад ці мажліва, бо графа «нацыянальнасць» у афіцыйных паперах адсутнічала, замест яе фігуравала «веравызнанне», якое далёка не заўжды адпавядала нацыянальнасці. Але ўсе заўвагі нікольні не азмрочваюць светлага ўражання ад цудоўнай кніжкі З. і С. Шыбекаў. Пры наступных выданнях, якія, бясспрэчна, будуць, трэба спадзявацца, што беларускі чытач атрымае кніжку пра сваю сталіцу ўжо на роднай мове.

На заканчэнне давайце разам, віншуючы аўтараў з вялікай, сапраўднай удачай, далучымся да цёплых слоў народнай артысткі СССР, карэннай мінчанкі Стафаніі Станюты, якія ў кнізе папярэднічаюць аўтарскаму тэксту: «...калі чытала кніжку, то перада мною, як у «чароўным ліхтары», праносіліся напаўзабытыя карціны: вуліцы, скверы,.. конка, паводкі, народныя чытанні ў Юбілейным доме, кінематограф і куплетысты... цыркавыя балаганы... Аўтарам удалося адчуць і данесці да нас жывое аблічча даўняга Мінска, самы дух мінулых часоў».

**Мар'ян ЗАЙЦАЎ.**



# 1991—год Максіма БАГДАНОВІЧА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**каб папоўніць яго экспанатамі, удыхнуць у яго жыццё, каб наведвальнікі адчулі веліч генія, пазнаёміліся з найбольш важнымі вехамі яго жыцця. Супрацоўнікамі музея сабрана больш 11 тысяч экспанатаў, якія раскажуць пра дзяцінства Максіма, пра яго творчасць у розныя гады. Пошукавая і навукова-даследчая работа працягваецца ўвесь час. Работнікам музея аказваюць дапамогу сваякі сям'і Багдановічаў, даследчыкі жыцця і творчасці пісьменніка.**

**НА ЗДЫМКАХ: у гэтым рэстаўрыраваным будынку ў Траецкім прадмесці Мінска месціцца літаратурны музей імя Максіма Багдановіча; паэт (у цэнтры) сярод гімназістаў-аднакласнікаў.**



*АНОНС*

# БЕЛАРУСІСТЫ ЗБЯРУЦЦА Ў МІНСКУ

**25—27 мая ў сталіцы Беларусі адбудзецца кангрэс беларусістаў. Старшыня аргкамітэта кангрэса, вядомы вучоны Адам МАЛЬДЗІС расказаў нашаму карэспандэнту пра маючую адбыцца падзею больш падрабязна.**

Гэты кангрэс установчы, але ён будзе абвешчаны першым, а ідэя аб стварэнні міжнароднай асацыяцыі беларусістаў узнікла ў Варшаве ў чэрвені мінулага года, калі там праходзіла навуковая канферэнцыя, прысвечаная 500-годдзю Ф. Скарыны. Сабраўшыся на гэту канферэнцыю, удзельнікі з многіх краін свету вырашылі, што па прыкладу многіх іншых краін, скажам, той жа Украіны, нам абавязкова трэба мець сваю міжнародную асацыяцыю беларусістаў, каб аб'яднаць усіх сяброў, усіх прапагандыстаў, папулярызатараў беларускай культуры — гэта значыць навукоўцаў, перакладчыкаў, прыхільнікаў сярод інтэлігенцыі, з тым каб пашырыць прысутнасць беларускай культуры ў свеце, каардынаваць супольныя намаганні. I было вырашана, што, натуральна, сядзібай такой міжнароднай асацыяцыі павінен стаць Мінск, паколькі ён сталіца Беларусі і тут канцэнтруюцца асноўныя навуковыя сілы. Там жа было вырашана, што варта стварыць нацыянальныя і рэгіянальныя асацыяцыі беларусістаў. Дарэчы, ужо ўзніклі нацыянальныя асацыяцыі ў Польшчы, Чэхаславакіі, Англіі, ЗША, ёсць групы беларусістаў у такіх далёкіх краінах, як Японія, Індыя. Для нас было прыемнай нечаканасцю, што там ёсць даследчыкі беларускай культуры. У Індыі мяркуецца ў канцы гэтага года правесці першую ўсеіндыйскую канферэнцыю прыхільнікаў беларускай культуры.

Кангрэс, які пройдзе ў апошніх днях мая, спалучыцца з Днём беларускага пісьменства, што адбудзецца 26 мая і будзе прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча.

На кангрэс мы запрасілі 75 зарубежных удзельнікаў з самых розных краін свету. Ад многіх мы атрымалі ўжо пацвярджэнні. Яны назвалі свае тэмы. У прыватнасці, зусім нядаўна з ЗША званіў дырэктар БІНіМа Вітаўт Кіпель, а таксама яго жонка Зора Кіпель, якая працуе ў беларускім пададдзеле публічнай бібліятэкі Нью-Йорка. Безумоўна, прыязджаюць пераважна прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей, таму што беларусазнаўцы гэта не толькі самі беларусы, але таксама і палякі, і немцы, і англічане. Мне хацелася б падкрэсліць, што акрамя гэтых 75 чалавек будзе яшчэ 125 удзельнікаў з іншых рэспублік і гарадоў нашай краіны і каля 200 непасрэдна з Мінска.

Вялікая рэгіянальная асацыяцыя беларусістаў узнікла ў Маскве, яны прышлюць 30 прадстаўнікоў, на Украіне ўжо таксама афарміліся беларусісты, прытым не толькі ў Кіеве, але і ў Харкаве, іншых гарадах. Ёсць у Літве, Латвіі. Запрашэнні скіраваны і ва Уладзівасток, і ў Новасібірск, і ў Тбілісі, і ў іншыя мясціны, дзе ёсць прыхільнікі нашай культуры, якія актыўна працуюць на беларускай ніве.

Праграма кангрэса вельмі насычаная і разнастайная. Адбудуцца пленарныя пасяджэнні, будуць працаваць тры секцыі па тэмах: «Праблемы беларускай мовы», «Праблемы беларускай культуры», «Праблемы беларускай літаратуры і перакладу». Акрамя гэтага, мяркуецца правесці «круглы стол», прысвечаны тэме, якая, думаецца, найбольш цікавіць чытачоў «Голасу Радзімы» — «Беларуская дыяспара».

Арганізатарам і асноўным фундатарам кангрэса з'яўляецца АН БССР, а таксама Міністэрства культуры рэспублікі і Беларускі фонд культуры, якія бяруць на сябе ўсю культурную частку праграмы. Акрамя гэтага, добраахвотнымі спонсарамі кангрэса сталі выдавецтва «Беларусь» і асацыяцыя «Белэкс». Беларускі бок цалкам фінансуе знаходжанне запрошаных гасцей: гасцініца, харчаванне, транспарт. Безумоўна, што мы не можам узяць на сябе аплату праезду. Бо мы толькі становімся на ногі, не маем уласных грошай. Сродкі будзем мець толькі тады, калі аформімся як арганізацыя, заснаваная на статуце. Калі будзе зацверджаны свой рахунак, будуць паступаць членскія ўзносы. Заўважу, што палову членскіх узносаў, а можа і меней, гэта іх справа, колькі яны нам будуць пералічваць, мы пакідаем за нацыянальнымі асацыяцыямі. Але я хачу сказаць, што карысць павінна быць узаемнай. Скажам, мы будзем дапамагаць і літаратурай, і інфармацыяй бібліяграфічнай. У сваю чаргу нашы зарубежныя калегі будуць прысылаць свае выданні, а некаторыя выданні будуць рыхтавацца сумесна. Карацей кажучы, планы ў нас сур'ёзныя, і яны будуць абмяркоўвацца на кангрэсе.

Хацелася б падкрэсліць, што галоўная мэта — і асацыяцыі, і кангрэса — садзейнічаць адраджэнню і развіццю беларускай нацыянальнай культуры, шырока, як мага больш пашыраць яе ва ўсім свеце. Мы павінны сёння вельмі крытычна паставіцца да таго, наколькі нас ведаюць у свеце. Нам хочацца, каб нас ведалі вельмі-вельмі добра. Але, на жаль, рэчаіснасць такая, што па-сапраўднаму ведаюць толькі Васіля Быкава, а ў нас жа багатая і літаратура, і мастацтва, і культура. Такім чынам, адна з задач асацыяцыі, гаворачы словамі Максіма Багдановіча, каб беларуская культура нясла свой дар усяму свету, усяму чалавецтву.






**У Мінску прайшоў міжнародны фестываль «Славянскія тэатральныя сустрэчы». Паколькі Беларусі належала ініцыятыва такога фестывалю, яна і была выбрана месцам яго правядзення. Ідэю падтрымалі Расія і Украіна. Міністэрствы культуры і Саюзы тэатральных дзеячаў трох славянскіх рэспублік сталі заснавальнікамі фестывалю. За межамі СССР прапанова ўдзельнічаць у «Славянскіх тэатральных сустрэчах» знайшла падтрымку ў Славеніі, Славакіі, Польшчы і Балгарыі. Арганізацыйныя фінансавыя праблемы заснавальнікі вырашылі на парытэтных пачатках. Аднак без матэрыяльнай падтрымкі Міністэрства культуры СССР і Саюза тэатральных дзеячаў СССР правядзенне гэтай важнай культурнай акцыі было надзвычай праблематычным. Кожную славянскую рэспубліку на фестывалі прадстаўляў адзін тэатр. Сярод зарубежных удзельнікаў фестывалю тэатр імя Р. Стаянава з Габрава і Славенскі нацыянальны тэатр драмы з Любляны, а таксама тэатр з Познані «Новы» і тэатр імя І. Заборскага з Прэшава.**

**НА ЗДЫМКАХ: перад пачаткам спектакля ля Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы; сцэна са спектакля «Партрэт» Славаміра Мрожака ў пастаноўцы тэатра «Новы» з Познані.**

*ЛЮДЗІ, ЯКІХ ПАКАЛЕЧЫЎ ЛЁС*

# ЖЫЦЦЁ ПАГАСЛА, ЯК ЗАРНІЦА

**— Яго забілі двойчы, — сказала ўдава мастака Рамана Семашкевіча Надзея Васільева.**

**Страшны сэнс гэтых слоў, але сумнення ў іх дакладнасці няма. Спачатку без вестак прапаў ён сам, а потым нібы сцерліся з памяці яго карціны.**

«Асуджаны без права перапіскі»,— адказвалі Васільевай на яе бясконцыя запыты пра мужа. А ў 1958 годзе выдалі даведку аб яго рэабілітацыі. А яшчэ праз трыццаць два гады яна даведалася, што Семашкевіч Раман Мацвеевіч быў расстраляны ў снежні 1937-га на Лубянцы, праз паўтара месяца пасля арышту. Без суда. Па пастанове «тройкі» пры Упраўленні НКУС СССР. Абвінавачанне — «у актыўнай контррэвалюцыйнай фашысцкай агітацыі, усхваленні фашысцкага ладу і праяўленні варожасці да кіраўнікоў УКП(б) і савецкага ўрада». Праведзенай праверкай устаноўлена, што крымінальная справа на Р. Семашкевіча поўнасцю сфабрыкавана супрацоўнікамі НКУС.

Пасля вобыску з кватэры мастака было канфіскавана больш за трыста яго карцін, падрыхтаваных да чарговай персанальнай выстаўкі. Без вопісу, без панятых. Як склаўся іх лёс? Пакуль гэтае пытанне застаецца без адказу. Пошукам карцін беспаспяхова займаецца Надзея Васільева ўжо больш чым пяцьдзесят гадоў.

Як паведамілі з КДБ у маі 1990 года, у матэрыялах справы Семашкевіча «маецца вопіс карцін, забраных пры вобыску 19 снежня 1937 года. Маецца таксама запіс аб перадачы ў 1940 годзе ўсіх забраных карцін з НКУС у Дзяржфонд... маецца запіс аб накіраванні ўсіх карцін на базу Маскупрамгандлю... устанавіць месцазнаходжанне карцін не ўдалося».

— Гэта скажэнне фактаў,— лічыць Надзея Міронаўна. — Ні пры арышце мужа, ні пры канфіскацыі яго карцін ніякага вопісу не рабілася. Усё адбывалася ў маёй прысутнасці. Дакумент, на які спасылаюцца органы КДБ, быў складзены 23 чэрвеня 1940 года — праз два з паловай гады пасля таго, што здарылася. Каму спатрэбілася гэтая фальсіфікацыя?

Нарадзіўся Р. Семашкевіч у 1904 годзе ў мястэчку Лебедзева пад Маладзечнам у сям'і садоўніка. Цікавасць да жывапісу абудзілася ў раннім дзяцінстве. Маляваў кожную вольную хвіліну.

Да 1925 года жыў у Заходняй Беларусі, быў камсамольцам. А потым перайшоў граніцу, каб дыхаць паветрам свабоды ў СССР. У 1927-м Масква, Вышэйшы мастацка-тэхнічны інстытут (ВМАТЭІН). Далёка застаўся бацькоўскі дом, беларуская гімназія ў Вільні, дзе ён афармляў маладзёжны часопіс «Рунь», студыя жывапісу Браніслава Тарашкевіча, мастацкі тэхнікум у Віцебску.

Творчасць Семашкевіча не ўкладвалася ні ў якія рамкі, ні ў якія групоўкі. Бясконцыя разважанні і спрэчкі мастакоў аб мастацтве здаваліся яму непатрэбнымі. Ён трымаўся сам па сабе. Адны называлі яго «стыхійным мастаком» і «самародкам». «Ён адразу стаў марай калекцыянераў, яго карціны ўражвалі ўнутранай сілай, цікавай кампазіцыяй і майстэрствам выканання»,— адзначалі іншыя. А для некага, магчыма, карціны Семашкевіча сталі прадметам спрэчак.

Яго паклоннікамі былі вядомыя мастакі і пісьменнікі: Н. Кузьмін Д. Штэрэнберг, А. Дайнека і Н. Удальцова, Кукрыніксы і Арцём Вясёлы, І. Ільф і Ю. Алеша, А. Кручоных і В. Катаеў. Яго падтрымліваў мастацкі крытык і перакладчык С. Ромаў, які быў асабіста знаёмы з П. Пікасо, А. Мацісам і многімі іншымі славутасцямі і карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод мастакоў.

— У Семашкевіча былі сяброўскія адносіны з В. Татліным,— расказвае Надзея Міронаўна.— Ён дапамог майму мужу атрымаць майстэрню на трэцім паверсе ў вежы Навадзевічага манастыра. Раман нават паспеў распісаць яе.

Мой муж быў апантаным,— працягвае яна.— Пісаў кожны дзень, заведзены небывалай сілай, не спыняючыся. Сіла гэта літаральна захліствала яго. Быццам прадчуваў ён свой трагічны хуткі канец.

Пісаў толькі алеем, а калі канчалася палатно — пяром і тушшу. Акварэль не любіў. Пісаў з натуры і без яе. Пісаў многа і хутка. Чым хутчэй пісаў, тым лепш атрымлівалася. Ён жыў, як птушка нябесная. Не ведаючы, што будзе есці, піць, у што апранацца. Жабрак. Бяссрэбранік. Наіўны дзівак. Неяк на адной з выставак Дайнека сказаў яму: «Раман, я запісаў цябе ў МАСМ».— «Запісаў і добра»,— адказаў Семашкевіч. Галоўнае для яго пісаць. Часам у ход ішлі прасціны, любыя кавалкі тканіны

Пастаянна ў рабоце. Ілюструе мастацка-літаратурны часопіс «30 дзён». Творчыя камандзіроўкі па краіне — Мінск, Алтай, Урал. Многа пісаў — і многа выстаўляўся. За сем гадоў пасля заканчэння ВМАТЭІНа Семашкевіч прыняў удзел у мностве выставак, у тым ліку шасці персанальных. У 1931 годзе на яго выстаўцы на В. Дзмітраўцы ў Маскве было прадстаўлена каля двухсот работ алеем і больш за сто малюнкаў, у асноўным тушшу.

— Ён ахвотна раздорваў свае карціны і малюнкі,— успамінае Надзея Міронаўна.— Яго карціны куплялі пісьменнікі, мастакі, калекцыянеры. Прадавалася ўсё за капейкі.

У 1930 годзе на выстаўцы «Всекохудожник» карціну Семашкевіча «Аўтадор» набыла Траццякоўская галерэя. Крыху раней Рускі музей купіў у яго «Чайную». Карціны Семашкевіча ёсць у Музеі імя В. Верашчагіна ў Нікалаеве, у музеях у Чэбаксарах, Мінску, Бішкеку, Таганрогу, Яраслаўлі, у прыватных калекцыях. Каля пяцідзесяці карцін і двухсот малюнкаў захавалася ва ўдавы мастака — толькі тое, што ў тую страшную лістападаўскую ноч 37-га знаходзілася ў кватэры яе маці.

Сёння Н. Васільева займаецца арганізацыяй яго персанальнай выстаўкі на Крымскім вале ў Маскве. Падрыхтавала каталог. Але тэрмін правядзення выстаўкі кожны раз адкладваецца.

— Я страціла мужа, дзяцей-блізнят — яны нарадзіліся неўзабаве пасля яго арышту мёртвымі. Як жонка «ворага народа», пазбавілася работы, кватэры,— гаворыць Надзея Міронаўна.— Мая адзіная мара — знайсці след прапаўшых карцін. Іх павінны ўбачыць гледачы. Але, баюся, не дажыву да гэтага дня.

Што адказаць ёй?..

**Алена КАНСТАНЦІНАВА.**

**P. S. Калі ў каго-небудзь захаваліся карціны Р. Семашкевіча ці ёсць звесткі пра іх лёс, просьба паведаміць Н. Васільевай — яе тэлефон у Маскве 290-03-59 ці ў Інфармацыйнае агенцтва «Навіны», тэлефон 201-41-45, А. Канстанцінавай.**

